**Увага! Самы позні тэрмін здачы рэкламных аб'яў у чарговы нумар — аўторак да 15 гадзін.**




# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

№ 39 (68). Слонім. 24 — 30 верасня 1998 г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік** Кошт свабодны


**ПРАБЛЕМА**

## ПРА ЯБЛЫКІ І ПАДАТКІ

**Нядаўна слонімская падатковая інспекцыя запатрабавала ад асоб, якія здаюць яблыкі на вінаробчы завод, прадстаўляць даведку аб наяўнасці прысядзібнай гаспадаркі. Пры адсутнасці такой паперкі людзі абавязаны плаціць падаходны падатак у памеры 9% ад агульнай сумы здадзенай прадукцыі.**

Па словах загадчыка вытворчасці вінзавода Мікалая Сушы, гэтае новаўвядзенне адмоўна адбілася на працэсе нарыхтоўкі яблыкаў.

— Пачынаючы са дня выхаду ў свет гэтага дакумента, адразу ўдвая зменшылася колькасць людзей, жадаючых здаць яблыкі, — сказаў ён. — Раней у дзень завод прымаў больш як 40 тон садавіны, цяпер — 13-15 тон. Калі і далей так пойдзе, то план нарыхтоўкі садавіны мы можам і не выканаць, бо людзі не жадаюць траціць час на атрыманне даведкі, — заявіў Мікалай Суша.

Ён таксама сказаў, што разам з гэтым ускладнілася праца прыёмнага пункта і вадзіцеляў-нарыхтоўшчыкаў, якія прымаюць яблыкі на вёсцы. Ім сёння трэба весці тры ведамасці, па той прычыне, што ёсць ільготнікі, удзельнікі вайны і г.д.




У бухгалтэрыі вінзавода карэспандэнту "ГС" сказалі, што, увогуле, узнікла пагроза зрыву нармальнай работы прадпрыемства. А вінзавод адлічвае ў гарадскую казну трэць усяго акцызнага падатку.

Каля прыёмнага пункта карэспандэнт сустрэў пенсіянераў Алену Рыгораўну і Пятра Ануфрыевіча, якія цягнулі брычку з трыма мяхамі яблык дамоў.

— Буду я сабе дурыць галаву і валачыся ў выканкам за той даведкай, — сказаў мужчына. — Лепш, хай свінні ядуць яблыкі. Каб была магчымасць, адвёз бы іх у Казлоўшчыну, там ніякую даведку не патрабуюць, калі здаеш менш тоны садавіны.

Сказаўшы гэта, пенсіянеры пацягнулі двуколку далей...

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**ЗДАРЭННІ**

### Пакалечыліся пяць чалавек

**У нядзелю вечарам на Шасэйнай вуліцы вадзіцель аўтамабіля "Форд-Сьера" Е. выехаў на сустрэчную паласу руху і сутыкнуўся з "Масквічом-412", якім кіраваў слонімец Ю.**

У выніку аварыі пяць пасажыраў, якія знаходзіліся ў машынах, атрымалі калецтвы. Трое з іх змешчаны ў бальніцу.

### Аварыя на масце

**У мінулую пятніцу на масце праз раку Шчара, што на вуліцы Я. Купалы, амаль на паўгадзіны быў спынены рух аўтатранспарту.**

Прычынай таму стала аўтамабільная аварыя. Вадзіцель іншамаркі "Форд", які рухаўся ў напрамку магазіна "Спадарожнік", нечакана на масце пачаў рабіць разварот. Вадзіцель "Масквіча", які ехаў услед, не здолеў пазбегнуць сутыкнення.

У выніку, з абодвух бакоў маста сабралася каля паўсотні аўтамабіляў і аўтобусаў. Кожны з удзельнікаў аварыі не хацеў сябе лічыць вінаватым.

Толькі пасля прыезду супрацоўнікаў ДАІ рух аўтатранспарту быў зноў адноўлены.

### Пацярпеў дырэктар

**Нядаўна сярод белага дня невядомыя залезлі ў дом аднаго з кіраўнікоў прадпрыемстваў С.**

Гаспадар выявіў, што злодзеі ўкралі ў яго 750 даляраў, 100 нямецкіх марак і 10 мільёнаў беларускіх рублёў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Кантрабандныя рагулі

**Супрацоўнікі слонімскай міліцыі на дарозе Слонім — Якімавічы затрымалі КамАЗ, які перавозіў 17 галоў буйнай рагатай жывёлы.**

Цікава тое, што КамАЗ належаў баранавіцкай фірме, якая везла жывёлу з Гродзенскага раёна.

Высвятлілася, што на груз адсутнічалі адпаведныя дакументы, таму было вырашана жывёлу здаць на слонімскі мясакамбінат.

**Міхась АКУЛКА**

### Небяспечны фантан

**Трагічна закончылася паездка аднаго слонімца ў Гродна.**

Увечары, каля 8-й гадзіны, ён гуляў па вуліцы Левабярэжнай і зваліўся ў фантан. Наш зямляк атрымаў чэрапна-мазгавую траўму і пашкодзіў спінны мозг.

### Пятралевіцкі пажар

**19 верасня, напярэдадні Дня работнікаў лесу, згарэў сталярны цэх слонімскага лясгаса ў Пятралевічах.**

Пажар адбыўся ў 12 гадзін дня, калі цэх не працаваў. Мяркуецца, што прычынай пажару быў падпал.

**Алег ТАЧОНЫ**

**НА ТЭМУ ДНЯ**

## НЕ ЗАНОСИТ ЛИ НАС К ДИКТАТУРЕ... ЗАВМАГОВ?

В сентябрьские дни наблюдательный человек, видимо, уловил такую деталь: некоторые продавцы наших магазинов, увидев бурлящие очереди с противоположной стороны прилавков, почувствовали себя "нужными" для покупателя людьми. Вновь, как и в прежние советские времена, кое-где начинается продажа дефицита из-под прилавка и со складов, вновь возрождается пресловутый "блат". И это несмотря на то, что согласно президентскому декрету отпуск товаров свыше установленных норм карается штрафом в размере от 50 до 100 минимальных зарплат?

Сегодняшний ажиотаж на товары, хотим мы того или нет, создает предпосылку к возврату тех порядков, когда государственной торговлей правили... завмаги. А причина тому — ежедневный рост цен. Обоснован или необоснован этот рост цен на мясопродукты, молочные товары, хлебные изделия? Пенсионеру или другому малоимущему человеку трудно в этом разобраться. У них сейчас одна проблема, как дожить до октябрьского повышения минималки? С ценами творится что-то неладное, как и во всей нашей жизни. Спрашивается, до каких пор будет происходить ценовый беспредел и когда, наконец, мы будем маломальски жить по-человечески?

**Иван ЧУГУЕВ**

## ОЧЕРЕДНОЙ СКАЧОК ЦЕН

На прошедшей неделе возобновился рост цен, вызванный очередным этапом повышения курса американского доллара.

К примеру, импортные сигареты в минских "комках" подорожали в среднем на 17% (в частности, «L&M» — с 49-55 до 55-66 тысяч рублей), растительное масло и макаронные изделия — на 16% (соответственно, со 105-125 до 127-140 и с 36-46 до 40-55 тысяч рублей), куриные окорочка — на 14 (со 125-130 до 142-148 тысяч рублей), сахар — на 8 (с 42-45 до 44-50 тысяч рублей), крупы — на 7 (в частности, гречневая — с 55-65 до 60-70 тысяч рублей) процентов. Цены на импортный шоколад увеличились на 10%.

Следует отметить, что стоимость ряда товаров сейчас выше той, что была зафиксирована в пик валютного кризиса в начале сентября, в то время как курс доллара еще не достиг зафиксированного тогда максимального значения.

**Наталья ФУРСОВА**

**НАВІНЫ**

### Президент освободил...

**Президент Беларуси подписал указ об освобождении колхозов, совхозов, других сельскохозяйственных предприятий и крестьянских (фермерских) хозяйств от выплаты налогов в части безвозмездно полученных материально-технических и финансовых средств при условии направления этих средств на развитие сельскохозяйственного производства.**

Средства же, использованные не по целевому назначению, согласно указу, подлежат налогообложению. Отмечается, что данный указ подписан «в целях оказания помощи сельхозпредприятиям в проведении сезонных сельхозработ, строительстве жилых помещений и ремонте техники».

### ...поручил

**О том, как осуществляется компенсация вкладов населения, находившихся в ОАО «Сберегательный банк «Беларусбанк» и оказавшихся обесцененными в ходе финансового кризиса, президенту доложила председатель правления банка Надежда Ермакова.**

Она подчеркнула, что сейчас осуществляется компенсация вкладов, сделанных в период с 1 января 1992 года по 1 января 1996 года. Совместно с Национальным банком подготовлен проект постановления правительства об очередном этапе компенсаций по вкладам. Президент дал поручение проработать вопрос увеличения процентной ставки по вкладам, являющимся компенсационными.

### ...принял

**Митрополит Филарет вручил А.Лукашенко письмо, подписанное, помимо самого Филарета, кардиналом Свёнтеком.**

В этом прошении содержится просьба об освобождении молодых священнослужителей от призыва на воинскую службу.

**БелаПАН**

### После короткой стабилизации доллар начал расти

**После недолгой стабилизации вновь начал расти курс американского доллара к белорусскому рублю. За последнее время курс безналичного рубля увеличился на 48%, со 120.000 — 150.000 до 170.000 — 230.000 рублей. В среднем на 17%, с 85.000 — 90.000 до 100.000 — 105.000 рублей, подорожал доллар на «черном» рынке наличной валюты в Минске.**

Банкиры полагают, что новые налоговые отчисления в бюджет могут несколько укрепить белорусский рубль, однако ниже отметок 180.000 — 200.000 курс вряд ли уже опустится.

### Рубли то новые ...

**Национальный банк Беларуси ввел в обращение модифицированные расчетные билеты достоинством 1000 и 5000 рублей образца 1998 года.**

Новые расчетные билеты нового образца изготовлены на белой бумаге с защитными волокнами красного цвета и общим водяным знаком, аналогичным по рисунку водяному знаку 100-рублевой купюры. Цвет и графическое исполнение лицевой стороны расчетных билетов нового образца максимально сохранены.

По информации Нацбанка, новые купюры являются законным платежным средством Республики Беларусь, обязательны к приему на территории страны всеми юридическими и физическими лицами во все виды платежей, переводов, для зачисления во вклады (депозиты), на расчетные и текущие счета по их номиналу. При этом расчетные билеты достоинством 1000 и 5000 рублей 1992 года выпуска остаются в обращении и являются законным платежным средством.

### Будзем жыць па-зімоваму

**З 25 кастрычніка мы пачнём жыць па зімоваму часу.**

У гэты дзень стрэлкі сваіх гадзіннікаў нам прыйдзецца перавесці на адну гадзіну назад.

**Б.П.**

### У Слонім прыедзе міністр

**У суботу, 26 верасня, у Слонім завітае міністр абароны Беларусі генерал-палкоўнік Аляксандр Чумакоў.**

Пад яго кіраўніцтвам адбудзецца падвядзенне вынікаў вайсковых вучэнняў, што адбыліся каля Баранавіч, у якіх удзельнічала і слонімская брыгада.

**Сяргей ЁРШ**

НАШ ФОТАКОНКУРС

## "У АБ'ЕКТЫВЕ — ДЗЕЦІ"



*А сейчас шашку бы!*
**Фото Вячеслава ПАРИМОНЧИКА**



*Враг не пройдет*
**Фото Александра БЕРЕСТОВСКОГО**

## АНЕКДОТЫ *из Интернета*

➡ Вольво цепляет на перекрестке джип. Все останавливаются, из джипа вываливают ребята в спортивной форме и подходят к водителю Вольво.

- Ну все мужик, ты попал! Продавай машину, продавай квартиру, с тебя деньги!

- Ребята, а кто вы такие?

- Мы? - удивленно - Мы спортсмены!

Мужик достает пистолет и, заряжая его:

- Ну тогда НА СТАРТ! ВНИМАНИЕ!...

➡ Приехал, значит, новый русский в Англию. Решил он взять машину напрокат, покататься. Приходит он в пункт проката.

- Хочу «Роллс-Ройс» и чтобы все было круто!

Достал пачку фунтов, чтоб на всю неделю хватило.

Солидный такой управляющий ему объясняет:

- Сэр, я хочу вам дать совет. Вы приехали в Англию, поэтому я прошу вас забыть правила дорожного движения вашей страны. Здесь все наоборот.

Например, вы хотите развернуться - так поворачивайте не налево, а направо. Ну и все в том же духе. Вы меня понимаете? Делайте все наоборот!

Ну, наш стоит с важным видом, мол, «все ОК, старик, прорвемся! Мы ж интеллигентные люди!» Заплатил мужик за тачку, сел и поехал. Владелец проката радуется удачной сделке. Все довольны.

Через пару часов в ворота гаража въезжает со страшным грохотом эвакуатор и тащит за собой совершенно разбитый «Роллс-Ройс»... Владелец проката в шоке:

- Сэр, как же так получилось?!! Я же вас предупреждал об особенностях нашего движения!!!! Ведь эта машина стоит 200000 фунтов!!!

Новый русский достал еще более толстую пачку фунтов и говорит:

- Ну ты, братан, даешь! Ведь сам же объяснил, чтобы делать все наоборот! Ну откуда же мне было знать, что вы тут тоже на ЗЕЛЕНЫЙ свет ездите!!!!

➡ Проводился опрос среди москвичей: «Как вы относитесь к иногородним?»

40% ответили - «Да мине всо равно, пусть приезжают, вах!»; другие 40% ответили - «Канэчно, пусть, всэм рады» и 20% ответили - «Мы не местные.»

**У Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістравалі шлюб:**



Варона Сяргей і
Горбун Галіна
Яфімік Сяргей і
Ахраменка Ірына
Цімафейчык Андрэй і
Кашавая Алена
Папкевіч Міхаіл і
Баравік Ірына
Вараб'ёў Павел і
Палубятка Алена
Мароз Дзмітрый і
Сталярчук Вольга

**ШЧАСЦЯ ВАМ!**

**За мінулы тыдзень у Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны дзеткі, якія нядаўна нарадзіліся:**

Каралёў Рома
Лютыч Сяргей
Шпак Уладзік
Ласіцкая Таня
Капыловіч Юля
Мажэйка Іна
Барзыхіна Таня
Філімонаў Дзяніс
Хлапнін Паша
Гуменя Оля



**КАГО НАМ БУСЕЛ ПРЫНЁС?**

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

✝

**НА МІНУЛЫМ ТЫДНІ АДЫШЛІ НАЗАЎЖДЫ:**

| | |
|---|---|
| **Прыхадоўскі** Канстанцін Канстанцінавіч | 1958 г.н. |
| **Вараб'ёў** Міхаіл Пятровіч | 1932 г.н. |
| **Сцяпанава** Таццяна Сцяпанаўна | 1914 г.н. |
| **Сяменькова** Марыя Акімаўна | 1932 г.н. |
| **Герасімчык** Алена Паўлаўна | 1917 г.н. |
| **Анацкая** Яніна Міхайлаўна | 1934 г.н. |

## Удивительная мозаика

***

Александр Македонский знал в лицо и по имени каждого из солдат своей армии, которая насчитывала 30 тысяч человек.

***

Шахматист Алехин по памяти, вслепую мог вести одновременно 30-40 партий.

***

Профессор из ГДР Гестерман владел 132 иностранными языками.

НАШ ФОТАКОНКУРС

## "У АБ'ЕКТЫВЕ — ДЗЕЦІ"

*Такому и море по колено*
**Фото Елены БЕЛЬСКОЙ**



*Доброе утро, страна!*
**Фото Дмитрия БОРИСЕВИЧА**

## КРОССВОРД *от Владимира ВАШУТЫ*

**По горизонтали:**

**1**. Волк-одиночка. **4**. Липовая доска, на которой гравировалась картинка для печатания. **7**. Школьная принадлежность. **10**. Пьеса А.Н. Островского. **11**. Одна партия в теннисе. **12**. Невысокий шкаф с выдвижными ящиками. **14**. Сооружение для причаливания и стоянки дирижаблей. **16**. Герой произведения А. Гайдара. **17**. Столица азиатского государства. **18**. Горная система в Азии. **19**. Точка небесной сферы, противоположная зениту. **21**. Спутник Марса. **23**. Один из видов ивы. **25**. Народный поэт Беларуси, автор монументальной поэмы "Хата рыбака". **26**. Колдовство. **27**. Короткое музыкальное приветствие. **28**. Вулкан на острове Минданао в Филиппинах. **29**. Промысловая рыба семейства карповых. **31**. Геометрическая фигура. **33**. Знак отличия за выдающиеся заслуги. **34**. Знак переноса. **35**. Домашние вещи, пожитки. **36**. Город в Польше. **38**. Ложное обвинение, клевета (устар.). **40**. Надежная защита, опора. **42**. Мячик для игры в бадминтон. **43**. Женское имя. **44**. Река в Европейской части России. **47**. Правый приток реки Рейн. **48**. Город и порт на острове Новая Каледония. **49**. Химический элемент, газ, применяемый при сварке. **50**. Танцевальный выход в балете.

**По вертикали:**

**1**. Вид театрального искусства. **2**. Злаковая культура. **3**. Десертное виноградное вино. **4**. Открытый прилавок для торговли на улице. **5**. Длинная плеть, кнут. **6**. Искусственное судоходное русло. **7**. Учреждение связи. **8**. Часть лица. **9**. Химический элемент. **12**. Птица отряда ржанкообразных. **13**. Город-курорт в Швейцарии. **14**. Город во Владимирской области. **15**. Дорога в саду, парке. **19**. Известный советский футболист. **20**. Литературное произведение. **21**. Внешняя, передняя часть здания. **22**. Остров в Эгейском море. **23**. Мельчайший микроорганизм, возбудитель заразных болезней. **24**. Город в Намибии. **29**. Русский композитор, автор оперы "Рогнеда". **30**. Река в Беларуси. **31**. Старинный военный головной убор. **32**. Хищная птица. **36**. Радиоактивный элемент. **37**. Приток Оки. **38**. Город в Эстонии. **39**. Древнее стенобитное орудие. **40**. Лиственное дерево. **41**. Известный филиппинский гроссмейстер. **45**. Город во Франции. **46**. Порода служебных собак. **47**. Река в ЮАР, левый приток реки Вааль.

**ОТВЕТЫ НА КРОССВОРД (№38)**

**По горизонтали: 7**. Полонез. **8**. Гуренко. **9**. Дивизия. **10**. Баритон. **11**. Монитор. **14**. Перевал. **15**. Реакция. **16**. Педагог. **19**. Каземат. **23**. Атрибут. **24**. Журавль. **25**. Пиранья. **26**. Дантист. **27**. Индивид. **28**. Рядовой.

**По вертикали: 1**. Полигон. **2**. Позитив. **3**. "Ревизор". **4**. Бумазея. **5**. Перигей. **6**. Акробат. **12**. Реферат. **13**. Экзамен. **14**. Пилотаж. **17**. Отчизна. **18**. Динамит. **19**. Кульчий. **20**. Туманян. **21**. Пантеон. **22**. Пластов.

